# Голас Радзімы

№ 27 (2117)
6 ліпеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



## ПАМЯЦЬ

Салдацкая маці Марыя Казлова дачакалася з вайны толькі аднаго сына, малодшага, Мікалая. Да канца сваіх дзён верыла яна, што вернуцца і астатнія трое, на якіх атрымала казённыя паперкі-паведамленні: прапалі без вестак. «Дык не забітыя ж»,—надрывалася матчына сэрца. І страты такой не вынесла... А праз многа гадоў аднавяскоўцы будуць уздыхаць: «Чула Манькіна душа, ой, як чула». Нечаканая вестка ашаламіла, аглушыла ўшацкую вёску Мазуля: жывы Аляксандр Казлоў.

«Дзе ж ты быў, братка, што не ехаў да нас так доўга!»—плакаў Мікалай. Плакалі і тыя нямногія сяльчане, якія яшчэ помнілі маладога і вясёлага хлопца Сашку Казлова. А што мог адказаць ім стары салдат, якога цяжкае раненне скалечыла, пазбавіла памяці на сорак з лішнім гадоў! Як ні змагаліся ўрачы за здароўе ветэрана, увесь гэты час ён маўчаў. Не помніў, хто ён, якога роду-племені.

Але аднойчы здарылася неверагоднае. Успомніў раптам сваю вёску, братоў, маці... Зашаптаў, загаварыў: раён Ушацкі, вёска Мазуля, маці Марыя... Вернутая памяць зрабіла яго чалавекам, невядомы салдат стаў вядомым. Значыць, прапаўшых без вестак трэба чакаць, нават калі чакаць ужо няма каму! А Аляксандру пашанцавала: яго чакаў брат Мікалай. Двое з чацвярых братоў цяпер разам. Старэйшаму семдзесят тры, малодшаму—шэсцьдзесят. І гэты здымак—першы ў іх жыцці, на якім яны разам.

Мікалай Казлоў паспеў выгадаваць трох сыноў, якіх назваў у гонар старэйшых братоў—Іван, Васіль і Аляксандр, пахаваў жонку. А ў Аляксандра Казлова за плячыма толькі вайна і бальніцы, бальніцы, бальніцы...

Жыццё кароткае. Такое кароткае, што не кожны паспявае зразумець, для чаго жыў. Калі вестка аб звароце Аляксандра Казлова з газет, часопісаў вылілася на ўсю краіну, на далёкай Пскоўшчыне Вольга Курдаліна ўспомніла, як цераз іх вёску Язна Невельскага раёна ў гады вайны праходзіў партызанскі атрад імя Чкалава 1-й брыгады імя Суворава. Успомніла і аднаго з байцоў гэтага атрада—Аляксандра Казлова. Напісала яму пісьмо. За Аляксандра адказаў Мікалай. Яшчэ два пасланні — і Вольга Яўгенаўна пераязджае ў вёску Мазуля, становіцца жонкай Мікалая. Але гэта ўжо другая гісторыя, больш аптымістычная і светлая.

Анатоль КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# ЧАСУ НЕПАДУЛАДНЫЯ

**Сёлета мы адзначаем 45 гадоў з дня вызвалення Мінска ад гітлераўцаў. Рэдкая дата вытрымлівае такое доўгае выпрабаванне часам на памяць і прызнанне грамадства: для значнай часткі сучасных савецкіх людзей Вялікая Айчынная — старонка гісторыі, што ляжыць за межамі іх жыцця. І разам з тым Дзень Перамогі 9 мая, Дзень вызвалення рэспублікі застаюцца для нашых людзей самымі вялікімі днямі, усенародным святам. У чым бачыць прычыны гэтага першы намеснік старшыні рэспубліканскага Савета ветэранаў вайны і працы Генадзь МІЛАВАНАЎ?**

— Ведаеце, усё, што звязана з пытаннем жыцця і смерці, застаецца ў памяці пакаленняў на доўгія гады. Магчыма, перадаецца нават генетычна. А ў 41—45-м сітуацыя менавіта так і вызначалася: будзе існаваць на зямлі беларускі народ ці не. Мне здаецца, з часоў татара-мангольскага нашэсця не было такіх жорсткіх выпрабаванняў, якія выпалі ў Вялікую Айчынную. Пра Кулікоўскую бітву і яе герояў мы таксама, дарэчы, памятаем, хаця праляцела больш за паўтысячагоддзя. А тут і паўстагоддзя не прайшло. Да таго ж яшчэ жывыя старыя салдаты, удзельнікі вызвалення Радзімы. І грамадства аддае даніну павагі, пакуль не позна, менавіта жывым, бо пройдзе няшмат часу — і застанецца толькі памяць пра іх.

**— Клопат пра неўміручасць памяці таксама патрэбная і высакародная справа.**

— Безумоўна, менавіта таму зараз праходзіць вельмі важная акцыя — стварэнне Усесаюзнай кнігі «Памяць», куды будуць занесены імёны ўсіх салдат і камандзіраў, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Мы ў Беларусі вырашылі выдаць такія кнігі ў кожным са 135 раёнаў рэспублікі. У іх будуць запісаны імёны ўсіх жыхароў раёна, што пайшлі на фронт, і ўсіх тых, хто вызваляў тую мясцовасць ад фашыстаў — у дзеючай арміі ці ў партызанскім атрадзе. Выпускам гэтага унікальнага выдання займаецца вельмі кампетэнтная ўстанова — выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя». Першыя тамы ўжо ўбачылі свет.

**— Тое, пра што вы расказалі, — адзін з аспектаў сённяшняй дзейнасці ветэранаў. Якія яшчэ задачы ставіць перад сабой ваш Савет!**

— Наша арганізацыя аб'ядноўвае ветэранаў вайны і працы Беларусі — усяго 2 мільёны чалавек. З іх 285 тысяч — ветэраны вайны, сярод іх 65 тысяч інвалідаў. Стан апошніх ды яшчэ тых старых людзей, якія ўжо не працуюць, а пенсію маюць маленькую, хвалюе нас асабліва. Сёння ў Беларусі 426 тысяч пенсіянераў атрымліваюць у месяц менш, чым па 50 рублёў. Вельмі многа такіх сярод вяскоўцаў. А калі яны адзінокія, няма каму дапамагчы? Што тады? І гэта ва ўмовах значнага росту цэн, падаражання жыцця.

**— Але ж і вы не ў стане дабавіць ім грошай.**

— Мы ў стане і павінны званіць ва ўсе званы пра іх беды, стукацца ва ўсе дзверы, за якімі пытанне можа быць вырашана. Дарэчы, ужо сёння многія калгасы, некаторыя прамысловыя прадпрыемствы павярнуліся тварам да клопатаў і бед старых людзей, ветэранаў вайны і працы. Яны аказваюць ім канкрэтную дапамогу, у прыватнасці, з прыбытку робяць даплаты да маленькіх пенсій. Але не ўсюды гэтыя праблемы вырашаюцца так проста. Нядаўна, напрыклад, прыходзіў да мяне ў Савет ветэран вайны. Яму 69 гадоў. Жыве адзін: жонка і сын памерлі. Пенсія — 62 рублі. Прынёс разліковую кніжку за кватэру, электраэнергію, камунальныя паслугі, рэцэпты на неабходныя яму лякарствы. Разам усё падлічылі. І выйшла: у дзень на харчаванне застаецца 79 капеек! Хіба ж на гэта можна пражыць?! Таму і маліў ветэран, каб дапамаглі ўладкавацца на работу. Сам не здолеў гэтага зрабіць. Зараз усе прадпрыемствы пераходзяць на самафінансаванне, і там лічаць кожны рубель, вось і адмахваюцца ад старых. Добра, гэтага чалавека таксама ўладкавалі, але колькі ж яшчэ чакаюць дапамогі, і пры тым самай рознай.

**— Але ж ветэраны Вялікай Айчыннай маюць шэраг сацыяльна-бытавых ільгот.**

— Так, ветэраны вайны па льготнай чарзе забяспечваюцца кватэрамі, ім робіцца 50-працэнтная скідка на лякарствы, яны бясплатна ездзяць у гарадскім і прыгарадным (для вяскоўцаў) транспарце і да т.п. Але мы ўсе столькі сёння маем у жыцці нявырашаных праблем, што гэта непазбежна адбіваецца і на становішчы ветэранаў.

**— За пасляваенныя гады сталі традыцыйнымі сустрэчы былых франтавікоў, партызан з моладдзю. Наколькі плённая гэтая традыцыя цяпер!**

— Яна захавалася і па сёння. Але разам з тым некалькі змянілася сама сутнасць з'явы. Калі раней моладзь з цікавасцю слухала расказы пра франтавое жыццё, то цяпер ветэрана імкнуцца бачыць не проста расказчыкам, але субяседнікам, чалавекам з багатым жыццёвым вопытам, з якім можна абмеркаваць складаныя з'явы, праблемы, ды і паспрачацца. А ў такой ролі далёка не кожны здольны выступіць. Зараз з гэтым прыходзіцца вельмі сур'ёзна лічыцца.

Асаблівую ўвагу наш Савет рэкамендуе ўдзяляць рабоце з навучэнцамі прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, кантынгент якіх даволі складаны ў выхаваўчым плане.

УСТАНОЎЧЫ З'ЕЗД

# ШУКАЦЬ ШЛЯХ ДА ДЫЯЛОГА

Гэтая навіна выклікала ў рэспубліцы вялікую цікавасць і неаднолькавае стаўленне: адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронта «Адраджэнне», і адбыўся не на тэрыторыі Беларусі, а ў Літве. Наша газета не атрымала запрашэння на з'езд, таму і сваімі непасрэднымі ўражаннямі пра тое, як ён праходзіў, мы не можам падзяліцца. Маем магчымасць прапанаваць чытачам толькі паведамленне, распаўсюджанае Беларускім тэлеграфным агенцтвам.

Дыялог або канфрантацыя? Гэта пытанне аказалася ў цэнтры ўвагі ўстаноўчага з'езда Беларускага народнага фронта за перабудову («Адраджэнне»), які адбыўся 24—25 чэрвеня ў Вільнюсе. Два дні яго ўдзельнікі абменьваліся думкамі, выказвалі розныя пункты погляду. Большасць прамоўцаў гаварылі аб тым, што процістаянне шкодзіць агульнай справе. У рэспубліцы накапілася нямала экалагічных, палітычных, моўных і іншых праблем, і таму вельмі важна адкінуць амбіцыі, думаць аб будучыні Беларусі, аб яе народзе.

На жаль, заклікаючы да кансалідацыі, узаемнай цярпімасці, павагі да думкі апанентаў, некаторыя ўдзельнікі з'езда самі іх не паказалі. І, што асабліва засмучае, такі тон спрабаваў задаць у справаздачным дакладзе аргкамітэта па стварэнню БНФ яго старшыня Зянон Пазняк. У ім, на жаль, выразна прасочваліся матывы ўчарашняга дня — дзялення грамадства па «лагерах»: «бюракратычная адміністрацыйная сістэма» і ў процівагу ёй увесь астатні народ. Беспадстаўнасць такога сцвярджэння была настолькі відавочнай, што нават старшыня маладзёжнага аб'яднання «Талака» Сяргей Вітушка вымушаны быў узяць слова і напомніць З. Пазняку: «Мы не маем права гаварыць ад імя ўсяго народа Беларусі. БНФ — гэта толькі яго частка».

Адчувалася, што з'езд рыхтаваўся ў спешцы. Інакш чым растлумачыць, што адзін з важнейшых праектаў — аб беларускай мове — так і не быў прыняты. На з'ездзе многа гаварылася аб самасвядомасці беларускай нацыі, аб тым, што яе станаўленне і развіццё пачынаецца з роднай культуры, роднай мовы. І ў то… час гэты дакумент не быў прадстаўлены на абмеркаванне ў групы падтрымкі БНФ.

А вось праект правядзення выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы БССР дэлегаты і абмеркавалі, і прынялі. Міжволі напрошваецца пытанне, што ж на першым месцы для «Адраджэння»: палітычнае прызнанне, развіццё нацыянальнай самасвядомасці або барацьба за ўладу?

Такім чынам, устаноўчы з'езд завершаны. Цяпер вельмі многае будзе залежаць ад таго, як стане паводзіць сябе кіраўніцтва новай грамадскай арганізацыі. Хочацца спадзявацца, што яно будзе прытрымлівацца думкі, якая неаднаразова гучала на з'ездзе: не дапускаць канфрантацыі, бо гэта падрывае самі асновы перабудовы, перашкаджае вырашэнню важнейшых сацыяльна-эканамічных і культурных задач.







**НА ЗДЫМКАХ: каля Палаца прафсаюзаў у Вільнюсе, дзе праходзіў з'езд БНФ «Адраджэнне»; дэлегаты і госці з'езда каля месца пакарання К. Каліноўскага.**

АДКРЫЎСЯ Ў ГУДЗЕВІЧАХ

## ЧАТЫРЫ МУЗЕІ АДНОЙ ВЁСКІ

Яшчэ адзін музей — на гэты раз народнай медыцыны — адкрыўся ў вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна. У яго экспазіцыі — спрадвеку вядомыя лекавыя расліны і... камяні, рэцэпты прафесіянальных фітатэрапеўтаў і мясцовых лекараў, дапаможнікі, апаратура. У музейнай «зялёнай аптэцы» звыш 30 траў, якія ў пэўных камбінацыях, як сцвярджаюць знаўцы, лечаць 140 хвароб.

Гэта — чацвёрты па ліку музей пасля літаратурна-краязнаўчага, этнаграфічнага і льну, якія раней адкрыліся ў запаведнай частцы старажытнай вёскі. У іх фондах каля дзесяці тысяч экспанатаў. Пра гісторыю краю, жыццё і быт мясцовых сялян расказваюць сабраныя ў рубленай хаце пад саламянай страхой прадметы хатняга ўжытку, калаўроты, ткацкі станок, іншыя прылады працы, а таксама вырабы ганчароў, майстроў пляцення, вясковыя строі. Любоўна афармлены і музей ільну, дзе культура гэта прадстаўлена ў час цвіцення, у выглядзе залацістых галовак, валакна, вышытых ручнікоў, пакрывалаў, паясоў, адзення.

РЭСТАЎРАЦЫЯ

## БОЙ СТАРАДАЎНІХ КУРАНТАЎ

Пасля доўгага перапынку загучалі куранты на званіцы Фарнага касцёла ў цэнтральнай частцы Гродна. Спецыялісты завода карданных валоў закончылі рэстаўрацыю іх унікальнага механізма, узрост якога — тры стагоддзі.

Каб вярнуць голас старадаўняму гадзінніку, механікі адшукалі архіўныя дакументы, у тым ліку і польскія, знайшлі аналагі многіх дэталей, што выйшлі са строю. На гэта пайшло паўтара года. Умельцы завода С. Дарашкевіч, В. Мельнік, І. Ясюкевіч, якім дапамагалі калегі з іншых прадпрыемстваў, адрэстаўрыравалі падшыпнікі, шасцерні, колы, рычагі, прывады. Вельмі дакладна адноўлена і вонкавае афармленне гадзінніка-велікана. Адзін толькі звон важыць 300 кілаграмаў, а маятнікавыя тросы дасягаюць даўжыні 15 метраў, як і ў XVII стагоддзі, калі гадзіннік пачаў адлік часу. Цыферблат мае накладныя рымскія лічбы, мінутную і гадзінную стрэлкі. Унесена толькі адно, але вельмі важнае змяненне: гадзіннік аснашчаны аўтаматычнымі свяцільнікамі, каб і ноччу было бачна, колькі гадзін.

Дзякуючы мастацтву рэстаўратараў, жыхары і госці старажытнага горада зноў атрымалі магчымасць чуць звон старадаўніх курантаў, якія ўстаноўлены на званіцы амаль 30-метровай вышыні.

СЛАВУТЫ ЗЯМЛЯК

## ВЯРТАННЕ ПРАЗ СТАГОДДЗІ

Праз тры стагоддзі вярнуўся ў родны горад вядомы аршанец Спірыдон Собаль — прадаўжальнік справы праслаўленага Францыска Скарыны. Іменем аўтара першага беларускага «Буквара», выпушчанага яшчэ ў семнаццатым стагоддзі, названа вуліца старажытнага горада над Дняпром.

Ініцыятарамі такога рашэння, зацверджанага гарвыканкомам, сталі ўдзельнікі клуба аматараў кнігі «Куцяяне». Гэта адзін з першых практычных крокаў па рэалізацыі праграмы аднаўлення гістарычнага цэнтра Оршы, дзе ствараецца музейна-культурны і краязнаўчы комплекс.

**Не, бабулька не плакала, успамінаючы дзень 6 ліпеня 1941 года. Слёз не было. Выплакала. Таму што ніколі не забывала тую трагедыю. Яна гаварыла спакойна і скупа, быццам пра гэта ведала па чутках.**

**...Дзень выдаўся сонечны, як па заказу. У разгары быў сенакос. Мужыкі працавалі ў лугах. Жанчыны завіхаліся па гаспадарцы. Карнікі ўварваліся ў вёску нечакана, пачалі выганяць жыхароў на вуліцу. Афіцэр загадаў выйсці ўсім Іванам... Голас Ганны змоўк не адразу. Ён заціх. Ці мне здалося, што апусцілася цішыня, калі ўбачыў яе вочы. О, гэтыя непаўторныя ўдовіны вочы без слёз. Яны калісьці бачылі перад сабою, калісьці кахалі, шкадавалі, лашчылі... А можа гэта гаварыла сама вайна! Тая, праклятая, у якую Ганне было ўсяго за дваццаць. Вайна, якая напярэдадні народнага свята Івана Купалы абрушылася на вёску Альхоўцы Ляхавіцкага раёна, што на Брэстчыне, такой вось бядою...**

**...Наперад выйшлі сем Іванаў. Афіцэру здалося гэтага мала, і ён пачаў выводзіць з натоўпу маладых хлопцаў. Дзесяцярых пагналі за вёску...**
**У той дзень Ганна Паліпчык асірацела больш за ўсіх: забілі двух яе Іванаў—мужа і брата. З двума малымі на руках ды дзвюма стратамі ў сэрцы стала яна адмяраць горкую сваю ўдовіну сцежку ад таго дня—6 ліпеня 1941 года.**



**НА ЗДЫМКУ: Ганна ПІЛІПЧЫК—апошні сведка трагедыі.**

**Фота і тэкст А. ВІКТАРАВА.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ГАВАРЫЦЕ БОЛЬШ Аь ПЕРАБУДОВЕ

Дарагія сябры!

Перш за ўсё хачу павіншаваць вас і ўвесь беларускі народ з вялікім святам—45-й гадавінай вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Дазвольце пажадаць усім таварышам, якія ўдзельнічаюць у высакароднай рабоце па выпуску газеты і «Бібліятэчкі «Голасу Радзімы» ў Мінску, усяго самага найлепшага, творчых поспехаў. Прыношу вялікую падзяку ад імя тысяч беларусаў у розных краінах, якія атрымліваюць «Голас Радзімы», за вашу работу па ўмацаванню культурных сувязей суайчыннікаў з Радзімай. А нашай Радзіме хачу пажадаць міру, шчасця і поспехаў у перабудове. Мы ўсе, замежныя суайчыннікі, упэўнены, што дружба, узаемаразуменне, новае мысленне і супрацоўніцтва паміж народамі нашай планеты будуць расці і мацнець. Верым, што міралюбівыя сілы назаўсёды пазбавяць нас ад небяспекі ядзернага знішчэння.

Хачу падзяліцца з вамі сваім меркаваннем аб вашай газеце і выказаць некаторыя думкі, якія з'явіліся пасля чытання асобных артыкулаў. Газета заўсёды выклікала ў мяне вялікую цікавасць, таму што расказвала пра падзеі ў Беларусі, ва ўсёй Савецкай краіне, аб якіх тут, у далёкай Аўстраліі, больш нідзе прачытаць было немагчыма. Мне, як чалавеку, які цікавіцца гісторыяй і культурай, важна было вывучаць вашы матэрыялы па гэтай тэматыцы. З іх я даведаўся імёны многіх гістарычных фігур і культурных дзеячаў Беларусі, аб якіх раней не меў уяўлення. Гэта значна расшырае кругагляд, прымушае па-іншаму ўспрымаць гісторыю і культурную спадчыну беларускага народа, яшчэ раз пацвярджае, што нам ёсць чым ганарыцца і ёсць што паказаць іншым. Гэтыя тэмы не застаюцца без увагі і цяпер.

Але сёння, калі ў Савецкім Саюзе адбываюцца такія вялікія, сапраўды рэвалюцыйныя змяненні, асноўную ўвагу ў газеце прыцягваюць артыкулы аб нядаўняй гісторыі нашай Радзімы і аб тых падзеях, якія адбываюцца сёння. Яны развіваюцца так ім а, што нават цяжка за ўсім усачыць. жаль, многія падзеі нядаўняй гісторыі старанна скрываліся ад савецкага народа. Мы, хто жыве за мяжой, напэўна ведалі пра іх крыху больш, таму што буржуазная прапаганда скарыстоўвала асобныя факты для дыскрэдытацыі нашай Радзімы і ідэі сацыялізму ў цэлым. Такое замоўчванне наносіла вялікую шкоду міжнароднаму прэстыжу Савецкага Саюза, ды і самому савецкаму народу.

Я вельмі рады, што новае кіраўніцтва краіны, якое ўзначальвае Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, пачало перабудову, адкрыла шляхі дэмакратызацыі і публічнасці. Патрэбна вялікая смеласць, каб адкрыта загаварыць пра ўсе памылкі і недахопы, якія мелі месца, і пачаць барацьбу супраць бюракратычнай сістэмы. Мы бачым, што такая палітыка ўскалыхнула народ, разбудзіла сілы, якія драмалі ў ім. Крыўдна, вядома, што наша Радзіма пры такой тэрыторыі і прыродных багаццях вымушана многае закупляць за мяжой, што не хапае сучасных машын, энергіі, прадуктаў харчавання, спажывецкіх тавараў, ёсць цяжкасці з жыллём. Але я ўпэўнены, што палітыка перабудовы вырашыць усе гэтыя праблемы, таму што магчымасці ёсць, а здольнасці і патэнцыял народа невычэрпныя. Трэба толькі накіраваць іх у правільным напрамку і рашуча пазбавіцца ад усіх бюракратаў, якія сталі тормазам прагрэсу. Перабудова—гэта цэлы этап, цэлая гістарычная паласа ў развіцці савецкага грамадства. Таму яна прыцягвае да сябе ўвагу людзей ва ўсім свеце. І, вядома ж, нам, замежным суайчыннікам, хочацца падрабязна ведаць пра ўсё, што вы робіце і чым жывяце цяпер.

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

# ВІНШУЮ СА СВЯТАМ

Прабачце, што доўга не пісала вам. Было многа клопатаў са здароўем. Тут гэта вялікая праблема: вельмі дорага каштуе медыцынская дапамога.

Ну а цяпер проста не магу не напісаць вам і не павіншаваць з такім радасным для маёй роднай Беларусі святам—45-годдзем вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў. Колькі гора прынесла нам вайна! Мяне яна разлучыла з Радзімай, мільёны людзей пазбавіла родных і блізкіх. Таму мне так радасна, штс наш народ, нашы дзеці і ўнукі ўжо столькі гадоў жывуць без вайны. Я ўсёй душой падтрымліваю знешнюю палітыку нашай Радзімы, накіраваную на ўмацаванне міру на планеце, тыя мірныя ініцыятывы і прапановы, што пастаянна вылучае ў апошнія гады Савецкі Саюз. Такія дзеянні прымушаюць і людзей у іншых краінах актыўней змагацца за мір.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# ЯШЧЭ АДНА АЛЬТЭРНАТЫВА

(Працяг. Пачатак у № 26).

Паражэнне белагвардзейцаў у 1919 годзе разглядалася як правал планаў аднаўлення «вялікай Расіі». Польскія палітыкі лічылі, што ў новых умовах яны могуць больш рашуча (хаця і аглядаючыся на Антанту) вызначаць пазіцыю адносна ўсходніх межаў дзяржавы.

Прыхільнікі інкарпарацыі, прамалінейна выказваючы настроі найбольш кансерватыўных палітычных колаў, далучэнне чужых зямель абгрунтоўвалі «гістарычнымі правамі» Польшчы на ўсходнія ўскраіны, што некалі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай і былі адабраны ў яе ў XVIII стагоддзі. Рэч Паспалітая ў межах 1772 года ўключала Беларусь, Літву, правабярэжную Украіну, частку Латвіі. Таму, выйшаўшы да Бярэзіны, польская армія, маўляў, ужо часткова выправіла гістарычную несправядлівасць. Польскі салдат у нейкай ступені ўжо вызначыў усходнія межы Польшчы, і іх трэба па магчымасці аднесці далей на ўсход.

Абгрунтоўваючы сваю канцэпцыю, прыхільнікі інкарпарацыі прытрымліваліся таго, што Савецкая ўлада — з'ява часовая і Польшчы так ці інакш давядзецца мець справу з адроджанай старой Расіяй. Яны ганарыліся тым, што Польшча выконвае «цывілізатарскую місію», аба ючы сябе і Еўропу ад «н. сця бальшавікоў». І ўзнагародай за гэта павінна быць прызнанне Антантай «усходніх прэтэнзій», прадастаўленне Польшчы поўнай свабоды «ў вырашэнні лёсаў набытых земляў». Суб'ектамі адносін г ы выступаць непасрэдна . ьшча і Расія, якія вырашаюць тэрытарыяльныя пытанні сілай ці пры дапамозе дыпламатыі. Ігнаруючы рэальныя факты, прыхільнікі інкарпарацыі адмаўлялі наяўнасць у беларусаў і ўкраінцаў «дзяржаўна-ствараральных здольнасцей», прыпісвалі народам Беларусі і Украіны «абыякавасць да палітыкі». Складаліся і рэцэпты выказвання насельніцтвам «грамадскай думкі» аб далучэнні адпаведных тэрыторый да Польшчы.

К канцу 1919 года вызначылася новая сітуацыя ў Савецкай краіне і на міжнароднай арэне. Нягледзячы на намаганні Антанты, сакрушальнае паражэнне пацярпелі белагвардзейскія арміі. У Еўропе рос рэвалюцыйны рух, узмацніліся сімпатыі да рабоча-сялянскай дзяржавы, мацнеў рух супраць умяшання ў справы Расіі.

Польшча стаяла перад выбарам: далейшая вайна ці наладжванне мірных адносін са сваім усходнім суседам. У буржуазных колах панавала думка, што ўлада бальшавікоў — гэта гістарычная анамалія, нейкая выпадковасць, таму яе падзенне непазбежна, калі не ад удараў знешніх сіл, то ў выніку ўнутранага развалу. Безумоўна, польскія генералы і палітыкі ведалі аб цяжкасцях Савецкай улады — глыбокай разрусе і заняпадзе прадукцыйных сіл, недахопе харчавання, прадметаў першай неабходнасці, ваганнях сялян, эпідэміях, цяжкасцях у забеспячэнні Чырвонай Арміі ўсім неабходным. Польшча, якую падтрымлівалі знешнія сілы, асабліва Францыя, не без рызыкі рашылася прадаўжаць вайну. Сама гісторыя нібыта давала магчымасць пакласці канец яе векавой спрэчцы з Расіяй. З гэтай канцэпцыяй звязвалася і магчымае расчляненне Расіі на дробныя дзяржавы. А калі ўсё ж бальшавікі ўстаяць, Польшча стане заслонай на шляху сацыялістычнай рэвалюцыі ў Заходнюю Еўропу.

Якія дзяржаўна-прававыя формы павінны былі атрымаць пакораныя землі? Левыя ў сейме — ППС і ПСЛ (Польске стронніцтво людове «Вызволене»), па-ранейшаму прытрымліваліся ідэі федэрацыі на чале з Польшчай. Ваяваць супраць Савецкай Расіі павінны Беларусь і Украіна, абапіраючыся на палітычную падтрымку і матэрыяльную, ваенную дапамогу Польшчы. Нацыянальныя дэмакраты (эндэкі — партыя буржуазіі і памешчыкаў) прапаноўвалі падзяліць спрэчныя тэрыторыі па ўзгадненні з Расіяй. Федэралізм адхіляўся на той падставе, што гэты метад стварэння «вялікай Польшчы» не сустрэне сур'ёзнай падтрымкі ў Беларусі і на Украіне, дзе, як адзначалася вышэй, нібыта «не было глыбокіх дзяржаўна-ствараральных інстынктаў». Праслаўтыя «інстынкты» трактаваліся, зразумела, у духу традыцыйных буржуазных паняццяў нацыянальнага пытання. Палітыцы буржуазных і дробнабуржуазных партый у пытаннях вайны процістаяла пазіцыя польскіх камуністаў. Прытрымліваючыся прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму, яны выступалі за мір, за саюз Польшчы і Савецкай Расіі. КРПП выкрывала польскі ўрад, які развязаў вайну супраць савецкіх рэспублік.

Для разумення крыніц і механізма фарміравання «ўсходняй палітыкі» Польшчы будзе вельмі карысным звярнуцца да ўстановак так званай «Стражы крэсовай», арганізацыі, якая аб'ядноўвала памешчыкаў, арандатараў, шляхту і іншыя блізкія ім па духу элементы «польскай людснасці» ў Беларусі. Пазіцыя «Стражы крэсовай» можа быць і не заслугоўвала б разгляду, калі б яна не была такой блізкай да афіцыйнай палітыкі польскага ўрада. Аналітыкі са «Стражы крэсовай» зыходзілі з таго, што няма беларускай нацыі і непраўдападобна, каб «беларускі рух мог стварыць сваю адасобленую беларускую нацыю з уласнай культурай, якая б імкнулася да дзяржаўнага адасаблення». Гэтаму перашкаджаюць «рысы і ўласцівасці самога беларускага народа, а таксама геаграфічныя і геалагічныя ўмовы...» І чым далей на захад, тым больш беларус становіцца падобным на паляка, і чым далей на ўсход, тым ён бліжэйшы да карэннага рускага. Рысы беларусаў з'яўляюцца, маўляў, пераходнымі паміж рускай і польскай нацыямі.

Стратэгаў «Стражы крэсовай» не магло не займаць пытанне аб дзяржаўна-прававых формах, якія павінны былі ўзаконіць далучэнне да Польшчы тэрыторый, захопленых у выніку вайны. Меркавалася два варыянты ўключэння ў склад Польскай дзяржавы беларускіх зямель: а) да Бярэзіны і Заходняй Дзвіны; б) да межаў 1772 года. Гродзеншчына, Віленшчына, а таксама Міншчына павінны быць непасрэдна інкарпараваны ў склад Польшчы. Дапускалася пры гэтым магчымасць усталявання «мясцовай аўтаноміі» для Міншчыны. Палітычнай маскіроўкай уключэння Гродзеншчыны, Віленшчыны і Міншчыны ў склад Польшчы магла быць «воля насельніцтва», выказаная выбранымі «на дэмакратычных асновах» прадстаўнікамі.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

(Працяг будзе).

